*Браты, сплятайце рукі...*
*Уладзімер Караткевіч.*

# ЗАЛІК

жнівень 2000

**Агульнагарадзкая студэнцкая газэта** №7

## У НУМАРЫ:

**Лясная школа-2000.**



**БАСовішча - твая музыка.**



**спорт.**

**Formula-1**



## СРОДКІ ДЛЯ ЧЫРВОНАГА КАСЬЦЁЛУ.

**У** крытычным стане апынуўся знакаміты Чырвоны касьцёл у Менску. Паводле заявы пажарнай службы, у касьцёле неабходна ўсталяваць пажарную сыгналізацыі, у іншым выпадку зь 1 сьнежня эксплюатацыя будынку будзе прыпыненая.

Для правядзеньня адпаведных работаў неабходна сума ў 13.800 $. Усе ахвочыя дапамагчы касьцёлу могуць перавесьці грошы на рахункі:

Рублёвы 3015029320016 код 604 філія 512 ААТ «Беларусбанк» г. Менску

Валютны 3015000000289 код ОКПО 14549959.

## ЗАДЗІНОЧАНЬНЮ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ ПАГРАЖАЕ ЗАБАРОНА, альбо ГІСТОРЫЯ НЕ АДНАГО ДНЯ.

**З**адзіночаньне Беларускіх Студэнтаў 8 верасьня атрымала папярэджаньне ад Міністэрства юстыцыі РБ.

Гэта ўжо другое па ліку папярэджаньне за апошнія паўгады. Як і ў сытуацыі з Аб'яднанай Грамадзянскай Партыяй, пільная ўвага ўладаў была прыкаваная да афіцыйных блянкаў арганізацыі. У першы раз вынясеньне мінюстам папярэджаньня справакавала слова «Менск», напісанае дарэформенным беларускім правапісам.

У другім папярэджаньні, датаваным першым верасьня, сьцьвярджаецца, што колер эмблемы, які ўтрымліваецца на афіцыйным блянку, не адпавядае зафіксаванаму ў статуце.

Сябры ЗБС лічаць, што гэтыя папярэджаньні не вытрымліваюць ніякай крытыкі, а падобная рэакцыя выкліканая досыць актыўнай дзейнасьцю аб'яднаньня. Так, увесну пасьля пікетаў супраць прымусовага разьмеркаваньня і за забесьпячэньне іншагароднім студэнтам прыстойных умоваў пражываньня, сябры ЗБС былі падвергнутыя ціску з боку КДБ.

**ПАДРАБЯЗНАСЬЦІ ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ.**

## Шаноўныя чытачы!

Вы трымаеце ў руках ужо сёмы нумар нашага з вамі бюлетэня. Гэта першы нумар сёлетняга навучальнага году. Над ім працавала, як і над кожным нашым выданьнем, каля дваццаці чалавекаў. Сёньня вынікі працы гэтых людзей перад вамі. Вам ацэньваць іх, вам іх крытыкаваць і вам іх хваліць. Але, як кажуць, калі табе не падабаецца тое, што напісана, напішы сам. Таму запрашаем усіх да ўдзелу ў стварэньні сапраўды цікавага, сапраўды карыснага і сапраўды патрэбнага выданьня. Чакаем вас у «ЗАЛІКУ». Базбаўце сябе ад сумных артыкулаў - напішыце самі! Да новай сустрэчы.

Ваша рэдакцыя.

## ВОРАГАЎ БІЛІ, І ПАХОДНІ ПАЛІЛІ.

**Н**а Крапівенскім полі, што пад Воршай, дзе ў 1514 годзе адбылася бітва паміж войскамі Вялікага княства Літоўскага і княства Маскоўскага, прайшло сьвяткаваньне Дню беларускай вайсковай славы.

На імпрэзу зьехаліся прадстаўнікі грамадзкасьці зь Менску, Віцебку, Магілёву, навакольных раёнаў. На пачатку праграмы каталіцкі сьвятар з аршанскага касьцёлу Сьвятога Язэпа адслужыў на полі сьвяточную імшу, пасьля чаго перад сабранымі з паказальнымі праграмамі выступілі сябры менскіх рыцарскіх клюбаў. Увазе гледачоў былі прадстаўленыя двубоі, групавыя паядынкі, інсцэніроўкі падзеяў пяцісотгадовай даўніны. У працяг праграмы адбыўся бардаўскі канцэрт. Мастак Алесь Пушкін прадставіў пэрфоманс «інкарнацыя далёкага покліч у».

Пад вечар актывісты спартова-патрыятычнай арганізацыі «Край», каб узьняць баявы дух сабраных, пашпацыравалі з запаленымі паходнямі і нацыянальнымі сьцягамі.

## БПСМ–МУС ... ШТО АГУЛЬНАГА?..

Украсавіку гэтага году была праведзена невялікая акцыя, назва якой і зьявілася загалоўкам нашага артыкула. Сэнс яе заключаўся ў тым, што мы даведаліся аб тым, што білеты моладзевай арганізацыі БПСМ быццам бы падобныя на пасьведчаньні работнікаў МУС, і вырашылі праверыць: ці так гэта? Дык чытайце адказ на гэтае пытаньне і рабіце свае высновы.

Дзея 1.

Першым аб'ектам "апэрацыі" былі кандуктары гарадзкіх аўтобусаў. Калі нас запытвалі: "Что у вас молодой человек?", - мы адказвалі: "Удостоверение" (прабачце, што на невядомай мове, але каб мы адказвалі па-беларуску, дык гэта б выклікала падазрэньне).

На наш адказ кандуктарка толькі моўчкі, ківала галавой (вось і вер тады, што яны не працуюць на КДБ)...

Дзея 2.

Другі "этап" праходзіў на адным з гарадзкіх кірмашоў (па зразумелых прычынах мы яго не называем).

Сцэнар быў просты: двое маладых хлапцоў падыходзяць да бабулек–нелегалак (якія гандлююць з-пад крыса), пытаюць цыгарэты, а потым прад'яўляюць "пасьведчаньні" (яны ж – білеты БПСМ). Бедная бабулька апраўдваецца ўсім, чым толькі можна і ў рэшце рэшт адкупляецца двума пачакамі L&M.

**P.S.** Самае цікавае, што ня трэба прад'яўляць вонкавы бок білета. Гэтым людзям было дастаткова толькі адваротнага, дзе намаляваны дзяржаўны сцяг РБ!

Рабіце вывады.

**Дзяніс Жораў.**

## Пахаваньне ці вясельле.

Усе вы мабыць ведаеце, колькі гора прыносіць сьмерць блізкага чалавека (а калі ня ведаеце, то дай вам Бог ня ведаць гэтага яшчэ доўга). Зразумела, што ў такія дні хочацца пабыць з памёрлым, каб запомніць яго на ўсё жыцьцё. Але па старой "азіяцкай" звычцы ("азіяцкай" не таму, што з Азіі, а таму, што расейцаў лічуць азіятамі) трэба наладжваць памінкі. Людзям цяжка перажыць сьмерць, а тут яшчэ такія клопаты. Вы яшчэ можа скажаце: "Дык навошта наладжваць тады памінкі?". Але ўсё ж хочуць "ня ўпасьці тварам у бруд": "усе рабілі, а мы што горш".

Гэта яшчэ паўбяды. Няхай бы крыху пасядзелі, успомнілі памёрлага. Дык гэта ж застольле (я не магу гэта йнакш назваць) працягваецца да трох дзён. Там нават песьні сьпяваюць. А каб апраўдацца, што гэтыя песьні не ад гарэлкі, а ад гора– называюць іх "сьвятымі песьнямі". Зараз так нават на вясельлях не гуляюць...

Атрымоўваецца, як у той показцы:

-Учора цешчу пахавалі.

-Ну і як?

-Тры гармоні парвалі.

Дык хто ж адкажа на пытаньне: "Пахаваньне ці вясельле?"

На Захадзе, напрыклад, пасьля таго, як труну закапаюць, усе разыходзяцца, бо разумеюць, што зараз родным памёрлага вельмі цяжка. Дык можа і нам так рабіць?

**Дзяніс Жораў.**


летняя школа ЗБС


летняя школа ЗБС

## Барысаў – сталіца незалежнага футболу.

Барысаўскі Цэнтар "Скрыжаваньне" здавён вядомы сваімі спартовымі мерапрыемствамі. Гэта і спартовыя спаборы паміж моладзьдзю горада, і "вылазка"ў Маскву, дзе барысаўцы падтрымоўвалі нашых футбалістаў, і выданьне знакамітага пэрыёдыка "OFFSIDE" (пра football дый ня толькі). Але тое відовішча, якое мела месца ў ліпені гэтага году ў Барысаве, менш чым сэнсацыяй не назавеш.

21-23 ліпеня ў Барысаве, на беразе ракі Беразіны, якая падзяляе горад на дзьве часткі, адбыўся фінальны футбольны турнір Кубак «Незалежнасьці».

За некалькі дзён да футбольнага сьвята няшчадна паліваў дождж, але якраз напярэдадні спаборніцтваў усталявалася файнае надвор'е.

У першы дзень на азначанае месца пачалі зьбірацца запрошаныя каманды зь Берасьця, Віцебску, Маладэчна, Жодзіна. Менск і Барысаў выставілі па дзьве каманды. У футбол не гулялі - толькі асталёўваліся, знаёміліся ды рыхтаваліся да «сечы». Слухалі сьпевы вядомага беларускага барда Андрэя Мельнікава і вершы мясцовай паэткі Алены Маеўскай.

22-га ліпеня адбылося ўрачыстае адкрыцьцё. А 9-й гадзіне каманды пашыхтаваліся. Гонар узьняцьця нацыянальнага сьцягу выпала «старэйшаму ўдзельніку турніру», а таксама і аднаму з арганізатараў, Анатолю Аскерку. Правілы турніру былі абвешчаныя кіраўніком спартова-турыстычнага клюбу «Волат», Зьмітром Бародкам: каманды падзялілі на дзьве групы, у кожнай па чатыры, якія гулялі «кожны з кожным». У перапынках паміж дванаццацю гульнямі, што былі згуляныя ў гэты дзень, хлопцы мелі магчымасьць ахалодзіць свой пыл», адмакаючы ў рацэ.

Па выніках гульняў у паўфінал, які адбыўся на апошні дзень, трапілі наступныя каманды: «Супольнасьць» (Менск) і «Грунвальд» (Маладэчна), а таксама дзьве барысаўскія каманды «Барысаў-1» і «Волат». Менчукі без усялякіх цяжкасьцяў адолелі «рыцараў» - 9:1, а «Волат» у дадатковы час здолеў вырваць перамогу зь лікам 3:2. Такім чынам, у фінал трапілі два гранды турніру, менчукі і барысаўцы.

Фінал быў вельмі напружаны. Вакол поля згуртаваліся шматлікія заўзятары, эмацыйна падтрымліваючы абедзьве каманды. Фартуна аказалася на баку барысаўцаў, якія атрымалі перамогу зь лікам 2:1.

Пераможца атрымаў вялізны крышталёвы кубак, якому маглі б пазайздросьціць і ўладальнікі Кубку Беларусі. На версе яго крышталёвы футбольны мячык, а на самім кубку гравіроўка «Незалежнасьць».

Але ж самую высокую ўзнагароду — удзячнасьць удзельнікаў — атрымалі арганізатары. На закрыцьці яны абвесьцілі, што «патэнтуюць гэтае мерапрыемства», а таксама чакаюць усіх зацікаўленых на наступны год у Барысаў.

Нам, аршанцам, застаецца альбо прыняць выклік барысаўскіх сябраў і адасляць да іх у наступным годзе сваю футбольную каманду, альбо стварыць штонебудзь альтэрнатыўнае іхнаму Кубку "Незалежнасьці".

**Волат.**

## *МЫ ВУЧЫМСЯ.*

***З*** трэцяга па восьмае ліпеня ў Менску адбылася першая сэсія адукацыйнай школы-сэмінару "Удасканаленьне дзейнасьці моладзевых грамадзкіх арганізацыяў" у межах сумеснага беларуска-швэдзкага праекту.

Ад Воршы ў першай сэсіі, якая была прысьвечана дзелавым і сацыяльным аспэктам кіраваньня ў грамадзкім аб'яднаньні, удзельнічалі два прадстаўнікі моладзевых НДА—Старшыня Аршанскай суполкі Задзіночаньня беларускіх студэнтаў Ільля Заранок і Сябра Ўправы арганізацыі "Зьвяз" Алег Ходасаў.

На сэмінары былі закранутыя тэмы: "Мэнэджмэнт у грамадзкім аб'яднаньні", "Разьвіцьцё арганізацыйнай структуры", "Кіраўніцтва й лідэрства", "Кааліцыя ды супрацоўніцтва".

Другая сэсія гэтага сэмінару пройдзе ў верасьні гэтага году ў Гародні.

***A.N.***

## Новая газэта.

***У*** ліпені ў горадзе Воршы пабачыла сьвет выданьне Рады дэмакратычных сілаў Аршаншчыны—"ДэмАрш".

Новая (і пакуль адзіная) незалежная газэта горада распавядае ў сваім першым нумары пра рэфэрэндум у мястэчку Балбасава і рост злачыннасьці, пра прыватызацыю ды сьвяткаваньне Дня Перамогі, пра паседжаньні гарвыканкама ды скандал месяца—прэзэнтацыю кнігі Віктара Грамыкі "Вясёлка над дарогай". Апошняя старонка выданьня аддадзена моладзевым арганізацыям рэгіёну і распавядае аб праблемах, якія сёньня хвалююць моладзь.

Пакуль што газэта распаўсюджваецца бясплатна і выходзіць раз на два тыдні.

***Т.Б.***

## Лясная школа.

***З*** 20 па 23 ліпеня каля вёскі Акінчыцы Стаўбцоўскага раёну працавала Лясная школа 2000, якую зарганізавала Задзіночаньне беларускіх студэнтаў.

Нягледзячы на дрэннае надвор'е ды нярэдка пахмурнае неба, у Лясную школу зьехаліся маладзёны з усяе Беларусі. Як і абяцалі арганізатары, удзельнікі за некалькі дзён дзейнасьці школы змаглі даведацца пра ЗБС і лідэрства, трэці сэктар ды працу ў ім і шмат іншага. Але акрамя навучаньня Лясная школа падрыхтавала мноства прыколаў, цёплых вечароў ля вогнішча ды ўсяго таго, што заўжды існуе ў беларускіх маладзёвых кампаніях.

Арганізатары, а тым больш удзельнікі, засталіся задаволенымі, таму трэба спадзявацца, што на наступны год ЗБС парадуе нас сваёй чарговай Лясной школай 2001.

***N.N.***

# "ЧАС І ПОСТАЦІ"

матар"ял падрыхтаваны Андрусём

**Кожны год 6 жніўня мы, Беларусы, а калі дакладней казаць, сьвядомая плынь беларусаў сьвету, адзначаем нашае нацыянальнае сьвята – ДЗЕНЬ ДРУКУ.**

Менавіта ў гэты дзень, у 1517 г. ў сталіцы Чэхіі, Празе, пабачыла сьвет ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ КНІГА–БІБЛІЯ, а выдаў яе наш славуты суайчыньнік Франьцішак Скарына, родам «з слаўнага града Полацка».

Ф. СКАРЫНА (148?-154?) вядомы нам і ўсёй Усходняй Эўропе ня толькі як беларус, які першы ў сьвеце (пасьля немцаў і чэхаў), другі з славянаў (пасьля чэхаў) і першы з усходніх славянаў выдаў друкаваную кнігу на роднай мове, але й як таленавіты астраном, біёляг, паэт, гісторык, філёзаф, перакладчык і нават аратар. Скарына праславіўся й тым, а разам з гэтым яшчэ раз праславіў і нас, БЕЛАРУСАЎ, што першы з усходніх славянаў эўропы скончыў Падуанскі Унівэрсытэт у Італіі і атрымаў званьне (ступень) доктара мэдыцыны.

Усяго за тры гады сваёй працы ў Празе Ф.Скарына выдаў 23 друкаваныя Бібліі на беларускай мове. Калі ён вярнуўся на Радзіму, дык заснаваў у Вільні першую на Беларусі друкарню і выдаў тут яшчэ дзьве кнігі. У 1522 "МАЛУЮ ПАДАРОЖНУЮ КНІЖЫЦУ" і ў 1525 "АПОСТАЛ".

Усе мы, беларусы—нашчадкі Франьцішака Скарыны—і павінны памятаць гэта, памятаць і славіць гэтую старонку нашай багатай і, канешне, слыннай Гісторыі.

І што б не казалі нашыя суседзі-славяне, надрукаваная Скарынай біблія на беларускай мове ў 1517г. – гэта першая ўва Усходняй Эўропе друкаваная кніга, кніга беларусаў, якая апярэдзіла на 38 год выхад друкаванай бібліі на Украіне, на 44г.— у Польшчы, на 143г. –у Летуве і (толькі ўявіце сабе гэтую адсталасьць) на 234г. у Расеі.



Між тым кнігадрукаваньне ў Расеі заснавалі нашыя славутыя землякі – Пётар Мсьціславец і Іван Фёдараў. Яны першыя ў Расеі, у 1564 годзе надрукавалі "Апостал", а праз год—два "Часоўнікі", тым самым яны адкрылі новую старонку ў гісторыі "расейскай культуры", далучыўшы нашых суседзей да эўрапейскай цывілізацыі.

Таму, калі лягічна паразважаць над гэтым, дык можна проста ўявіць, што мы, беларусы, прынеслі гэтай цёмнай краіне культуру, і калі б ня мы і цывілізаваная Эўропа, дык, мабыць, яшчэ і ў 18-19 стст. расейскае пісьменства ўяўляла б сабой збор з "глиненых и деревянных дощечек, катушков и коры деревьев"

Гэта сьмешна ці не, лічыць вам. Але факт ёсьць факт.

Зараз Скарыне ў Полацку і Празе пастаўлены помнікі, на яго малой радзіме адчынены музэй беларускай кнігі, яго імя носяць вуліцы беларускіх гарадоў (у тым ліку адна з вуліц Воршы), пляцы Менску, Гомельскі дзяржаўны унівэрсытэт, Пэдвучэльня у Полацку і шэраг іншых установаў і аб'яднаньняў краіны.

Вядомы беларускі навуковец і гісторык Вацлаў Ластоўскі ў сваёй кнізе "Што павінен ведаць кажны беларус" пісаў: "Кожны сучасны культурны чалавек перш—наперш павінен ведаць, хто ён такі, якая ягоная гісторыя".

На жаль мы, беларусы, не заўсёды шануем, як трэба памяць пра нашых продкаў і пра нашу Гісторыю і таму просты прыклад: абсалютная большасьць надрукаваных Франьцішкам Скарынаю беларускіх кніг, зараз знаходзіцца па-за межамі нашай краіны. Іх можна знайсьці ў прыватных калекцыях, у музэях Берліна, Парыжа, Вены, Лёндана, Прагі, Варшавы, Санкт-Пецярбурга, Масквы... Ды нават ў Эўрапейскіх бібліятэках, толькі ня ў нас. На Беларусі захаваліся ўсяго толькі некалькі асобнікаў. Так, балюча й сорамна, за сябе, за народ, за Радзіму, за нашае мінулае, за нашае сучаснае і зусім страшна за нашае будучае.

Але ўсё ж такі ня ўсё так дрэнна ў нашай гісторыі, і ў нашым сучасным. Галоўнае, як мне здаецца, асэнсаваць , што ўсё яшчэ наперадзе, і ўсё ў нашых маладых руках, бо можна, калі захацець, страчанае—знайсьці, адабранае – вярнуць, забытае – адрадзіць, зруйнаванае—адбудаваць.

Галоўнае мець ЖАДАНЬНЕ І ВЕРУ, І ТАДЫ БОГ нам абавязкова дапаможа.

# ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ. БЫЦЬ РАЗАМ.



Рэспубліканскае маладзёвае грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"—непалітычная недзяржаўная арганізацыя—была ўтворана ў 1990 годзе і апошні раз перарэгістравана 13 верасьня 1999 году (рэгістрацыйны нумар 00513).

Аршанская суполка ЗБС зьявілася 14 кастрычніка 1999 году з ініцыятывы студэнтаў Пэдагагічнага каледжу ды Мэханіка-тэхналягічнага тэхнікума.

Акцыя "Дні Караткевіча" (віктарыны ды літаратурныя чытаньні ў 8-ай і 22-ой школах горада) і выданьне студэнцкай газэткі "Залік"—першыя крокі буйной беларускамоўнай моладзевай арганізацыі горада.



**КРАЯЗНАЎСТВА.**

Ужо ў першы месяц свайго існаваньня Аршанскае ЗБС вызначылася з прыярытэтамі: Ворша—наш горад! Краязнаўчыя віктарыны са слайдамі, мапамі ды здымкамі, самаробная сэрыя "Даведак па гісторыі Беларусі" зьбіралі шмат моладзі і гуртавалі прыхільнікаў ды будучых сябраў.



**АКЦЫІ.**

Каляды. Апошнім шумным мерапрыемствам мінулага 1999-га году для аршанскіх ЗБС-аўцаў было адзначэньне Калядаў. Піва і падарункі, песьні, цікавыя гульні ды салодкасьці, а яшчэ й нечакана ўсплыўшыя дні народзінаў некалькіх сябраў—зрабіла сьвята проста незабыўным. На разьвітаньне, у калядную ноч, кожны з прысутных атрымаў паветраны шарык, у якім знаходзілася паперка з напісам таго, што будзе суправаджаць гаспадара шарыка ўвесь 2000-ны год. У кагосьці было шчасьце, у кагосьці каханьне, а ў некага—грошы.

"Вакацыі па-беларуску".

Неўзабаве, за навагоднімі сьвятамі, сэсіяй ды іспытамі надышлі зімовыя вакацыі. Але пражыць два тыдні дома і нічога не рабіць Аршанскае ЗБС не змагло. Інтэлектуальныя гульні за "Зімовы кубак" ды дыскатэка, на якую прыехалі госьці зь Менску, Наваполацку, Віцебску ды Коханава—вось, што зрабіла студзеньскі адпачынак разнастайным ды цікавым.

"Дзень сьвятога Валяньціна".

Ну які ж студэнт не кахае? Правільна, ніякі, таму гэтае сьвята ЗБС прапусьціць не магло. У інтэрнатах—пацалункі ды танцы пад беларускі рок. На нашай сядзібе—торты ды напоі, спаборы, прыколы і... вылучэньне Пары закаханых 2000.

"25 сакавіка. Дзень Волі."

У дзень, які мы вельмі любім ды шануем, нельга было проста адзначаць, трэба было адзначаць разам, весела ды махна, што мы й зрабілі.

**14:00**—пасьля пар вандроўка па горадзе. Краязнаўства ды жарты, музэі ды Аршанскае гарадзішча.

**16:30**—імша "за Беларусь" у Дамініканскім касьцёле ў цэнтры горада.

Зь **17:00** і да самага ранку—піва, гульні і дыскатэка.

А яшчэ былі першага красавіка — Дзень сьмеху і смутак 26-га, нашыя дні народзінаў, новыя знаёмствы, вандроўкі, праца і адпачынак.



**СЭМІНАРЫ.**

На якіх толькі адукацыйных сэмінарах ні пабылі ЗБС-аўцы! "Студэнцкае самакіраваньне" і "Асновы журналістыкі", "Стратэгічнае плянаваньне" і "Студэнцкія выданьні", "Чалавек і права", "Крыніцы інфармацыі ды інтэрнэт" і шмат якія яшчэ.

Куды толькі ні прыйшлося зьезьдзіць—Віцебск, Гародня, Берасьце, Полацак, Менск, Ліда...



**АЭРОБІКА.**

Напэўна самая прыкольная частка нашай дзейнасьці—аэробіка пад беларускую музыку. Але, шчыра кажучы, гэта ня проста "прыкольна"—гэта відовішчна, файна, цікава!

Дзякуем усім дзяўчынам, якія нам дапамагалі яе арганізаваць.

**"ЗАЛІК".**

Гэта ня проста росьпіс у залікоўцы ці слова зь пяці літараў—гэта гарадзкая студэнцкая газэта, якую выдаем мы ўжо амаль год. Інтэрвію, навіны, музыка, тэсты, цікавыя тэмы нумароў і інфармацыя—вось, што зрабіла наш "Залік" папулярным і патрэбным у студэнцкіх асяродках горада.



**"ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫ КЛЮБ".**

Вялікая колькасьць прызоў, беларуская мова і каманды недзяржаўных арганізацыяў—асноўнае, што адрозьнівае наш інтэлектуальны клюб ад іншых.

Што месячныя гульні праходзілі азартна і часам напружана, з балельшчыкамі, спаборнікамі ды пераможцамі.



**НАША БУДУЧЫНЯ.**

Але няма мяжы для паляпшэньня. Таму як бы класна ні жыла Аршанская суполка ЗБС, трэба жыць класьней! У сувязі з гэтым прэзэнтуем вам нашыя новыя праграмы.

Студэнцкая праваабарончая камісія.

Кансультацыі і парады, адстойваньне правоў і дасягненьне перамогі над беззаконнасьцю. Стыпендыі і плата за вучэбу, інтэрнаты, аб'етыўнасьць на іспытах і прымусовае разьмеркаваньне—погляд праз прызму права.

ЗБС-адукацыя: сэмінары, трэнінгі, лекцыі, краязнаўства, філялёгія, мэнэджмэнт, права.

ЗБС-адпачынак: аэробіка, інтэлектуальныя гульні, дыскатэкі, вандроўкі, пікнікі, сьвяты.

Таксама мы будзем паляпшаць наш "ЗАЛІК" і працягваць свае акцыі.

калі Вас зацікавіла наша арганізацыя, знайдзіце нас:
*Менск:* вул. Дарашэвіча 4-2.
Тэл/факс 232-27-43.
E-mail: bsa@bsa.org.by
***Ворша:***
тэл/факс 4-40-13.
E-mail:
zbs@orsatbm.lingvo.vitebsk.by.

будзем разам!

матар"ял падрыхтаваны паводле беларускай прэсы

# БАСовішча 2000.

**Сёлета зноў, як і дзесяць год ужо, ля места Гарадка, што на Беласточчыне, прайшлі Дні Беларускай Рок-музыкі—фестываль Басовішча, які арганізоўвае з 1990 году Беларускае аб'яднанне студэнтаў (БАС).**

Ідэя стварэньня фэстывалю ўзьнікла ў 1989 годзе між беларускімі студэнтамі ды моладзьдзю, якія жывуць у Рэспубліцы Польшчы. Першы раз мерапрыемства прайшло на паляне Барык ля Гарадка, дзе й праходзіць да сёньня.





Традыцыйна Басовішча адбываецца ў два этапы. На першы дзень прыпадаюць выступы маладых рокавых гуртоў, якія даслалі свае заяўкі на сьвята.

Другі дзень – гэта канцэрты беларускіх ды польскіх музыкаў (N.R.M., Новае Неба, Крама, Палац, Мясцовы час ды інш.)

Фэст, які заўжды зьбірае шмат слухачоў і вялікую колькасьць гуртоў, на гэты раз стаўся зусім незвычайным...

Чаго там толькі не было! Postscriptum, фольк з падвойным жаночым вакалам, узяў першы прыз—20 гадзінаў запісу ў студыі. Гардкоравы гурт "Сонца Мао" атрымаў прыз ад фундацыі імя Сьцяпана Батуры. Польскі рок-гурт Rima быў узнагароджаны мясцовымі ўладамі. Таксама польскі гурт Zet (кажуць, калі да N.R.M. дадаць Hasta la filista, дык атрымаецца менавіта гэты гурт) атрымаў адмысловы прыз ад "Радыё Рацыя". Самі бачыце, што такое Басовішча могло задаволіць любыя густы. А яшчэ на фэсте гралі "Склеп", "Млын", "Цмокі", "Безь білета", "Твар", "Бан Жвірба" і хаця й не атрымалі ніякіх узнагарод, думаю, не пакрыўдзіліся, бо выступы з такім якасным гукам здараюцца не заўсёды.

Наагул Басовішча – гэта ня толькі магчымасьць маладым музыкам паказаць сябе ды паглядзець на іншых, гэта ня толькі самы вялікі рок-фэст беларускай музыкі, але й адно з найбуйнейшых рок-мерапрыемстваў у Польшчы. Пацьверджаньне гэтаму – сёлетні ўдзел у фэсьце знакамітых польскіх гуртоў Zdrowie na budowie ды Acid Drinkers, якія даволі арганічна ўліліся ў рэчышча фэсту.

Такім чынам яшчэ адно Басовішча зрабіла свой унёсак у гісторыю беларускай музыкі. Але будзе новы год, будзе новае Басовішча. А калі ты маеш сваю рокавую (ці што-небудзь кшталту гэтага) таленавітую каманду і жадаеш ня проста сядзець на мейсцы, а заваёўваць свой музычны алімп, дык Басовішча—гэта твой шанец, не ўпусці яго.

**як патрапіць на БАСовішча, як рок-гурту зьвязацца зь Беларускай Асацыяцыяй Студэнтаў - пра ўсё гэта й шмат пра што яшчэ Вы зможаце даведацца праз Аршанскую суполку Задзіночаньня беларускіх студэнтаў ды рэдакцыю газэты «ЗАЛІК».**

# Формула-1—вяршыня аўтамабільнага спорту.

Кальцавыя гонкі машын у клясе формула-1 сёньня—вяршыня аўтамабільнага спорту. Спаборы праводзяцца пачынаючы з 1950 году. Чэмпіянат складаецца з 16 (часам 17) асобных гонак-этапаў.

Аўто формулы-1 уяўляюць сабой аднамясцовыя баліды (так называюцца машыны формулы-1). З коламі, якія выступаюць з кодаба.

Пачынаючы з 1950 году тэхнічныя патрабаваньні да машын пастаянна зьмяняліся. Рэглямэнтаваліся за гэтыя гады аб'ём рухавіка, ціск паддува, вага аўтамабіля, розныя памеры машыны, колькасьць цыліндраў, ёмістасьць апалавых бакаў, канструкцыя аэрадынамічных устройстваў і шмат што яшчэ.



**...што я думаю пра гонку**

Сёньня машыны формулы-1 атаясамляюцца з вышэйшым узроўнем аўтатэхнікі. Спаборы першанства сьвету сталіся своеасаблівай вітрынаю апошніх тэхнічных дасягненьняў.

Усе гонкавыя аўто формулы-1, якія стартуюць сёньня, маюць дужа падобную будову. Фірмы заўжды пачынаюць адна ў адной паўтараць ідэі. Новыя тэхнічныя рашэньні ды ідэі—гэта добра, але гэтага часта бывае замала. Патрабуецца яшчэ дакладная прыстасоўка знойдзеных рашэньняў да ўмоваў гонкі, якія заўжды зьмяняюцца. Асноўнае месца займае наладка аўто пад кожную адпаведную трасу і нават пад індывідуальныя асаблівасьці кіроўцы.

Сучасная машына формулы-1 мае, звычайна, нясучы вуглепластыкавы корпус, а да яго ў сваю чаргу мацуецца блёк з рухавіка, каробкі перасоўваньня і галоўнай перасоўкі.



Нясучы корпус баліда важыць каля 20 кг., рухавік—ад 100 да 140 кг., само ж аўто (бяз масла, вады, паліва)—каля 500 кг.

Пярэднія і заднія колы падвешаны незалежна, прычым спружыны ды амартызатары, прыбраныя ў кодаб. Гэта зроблена для таго, каб зьнізіць аэрадынамічны супраціў. Больш за тое, сучасныя аўто формулы-1 зьмяшчаюць у сваёй будове шмат прыладаў, якія выкарыстоўваюць аэрадынамічныя сілы. Пярэднія ды заднія супрацькрылы, паветраводы, плоскасьці, спраектаваныя такім чынам, што пры абцяканьні іх сустрэчным патокам паветра ствараюць супрацьуздымную моц, якая прыціскае аўто да дарогі. Гэтая моц спрыяе больш хуткаму руху зваротаў. Вага баліда ў час руху можа дасягаць некалькіх тон!!!



Так сьвяткуюць перамогу сапраўдныя гоншчыкі.

Паказчыкі хуткасьці аўто залежаць і ад рухавіка, яго моцнасьці і цягавых характарыстык. Аб'ём сучасных рухавікоў абмежаваны адзнакай тры літры. У сувязі з гэтым актуальнай задачай стала атрыманьне большай моцнасьці з абмежаванага працуючага аб'ёму. Чатыры альбо пяць затамак (клапанаў) на цыліндар, найлепшы выбар дозаў газаразьмеркаваньня, форма камэры спальваньня, канфігурацыі ўваходных і выходных каналаў, сыстэма ўпырскваньня апалу забясьпечваюць сёньня нават без нагнятальнікаў удзельную моцнасьць 260-285 к.с.(конскіх сілаў). Зь літра працоўнага аб'ёма рухавіка (прынамсі ў "ЖЫГУЛЕЙ"-50к.с./л.

Сучасныя рухавікі формулы-1 працуюць у рэжыме 15-18 тысячаў абаротаў за хвіліну.

Аўто формулы-1—гэта надзвычайна дарагія машыны. Да прыкладу, адзін кілягграм баліда каштуе столькі ж ці крыху больш за 1 кілягграм золата.

Усе навінкі з формулы-1 паступова пераносяцца ў прамысловае аўтамабілебудаваньне. Напрыклад, пяць затамак на цыліндар доўгі час лічылася прывілеем толькі спартовых машын. Але паступова гэтыя ды іншыя рашэньні пачалі выкарыстоўвацца амаль ува ўсіх сучасных аўтамабілях.

Формула-1 гэта таксама вельмі відовішчны спорт, які саступае па папулярнасьці толькі футболу.

*Уладзь Сафонаў.*

Шахматы найстаражытнейшая гульня ў сьвеце. Калі Вы ўмееце крыху перастаўляць фігуры ды маеце цярпеньне думаць, дык паспрабуйце зрабіць свой адзіны ход, каб выйграць партыю. Адзін ход - гэта так мала, але ў гэтым становішчы ён вырашае ўсё.



Ход чорных

## Показкі.

Ідзе іспыт. Студэнт адказвае на білет. Выкладчык не вытрымлівае:

—Паслухайце, я вам ужо трэцюю тройку стаўлю. Чаму вы ня вучыцеся? У рэшце рэшт ад ведаў яшчэ ніхто не памёр!

—Я разумею, але, згадзіцеся, лепш не рызыкаваць.

## Смачна есьці!

### Цестачкі да гарбаты.

*Гатуецца хутка, атрымоўваецца смачна і прыгожа.*

Бярэш: 200г. маргарыну, цытрынавую цэдру, 150г. цукру, 2 яйкі, 150г. мукі і аўсяных хлоп'яў.

Маргарын расьціраем у пену, дадаем цэдру, сьцёртую з цытрыны, цукар, 1 яйка, хлоп'я, муку. Добра вымешваем масу і ставім у лядоўню на некалькі гадзінаў.

Затым месім на дошцы, фармуем у блінцы, змазваем зьверху яйкам, пячэм 25-30 хвілін пры ўмеранай тэмпэратуры ў духоўцы.

Зараз можаце скласьці па дзьве цестачкі ды змазаць іх пасяродцы пушам і джэмам.

**ешце на здароўе!**

## Студэнцкая зёльня: Сродак ад п'янства.

**Народная мэдэцына распрацавала сродак для ацьвярожваньня.**

Амэраканскі лекар Д.Джарвіс распавядаў у кніжцы *"Мёд і натуральныя прадукты"*, як яго запрасілі да мужчыны, што знаходзіўся ў дваццаці-дзённым запоі.

Яму далі 6 чайных лыжачак мёду, праз 20 хвілін яшчэ, затым яшчэ . Усяго мужчына атрымаў 18 чайных лыжачак мёду на працягу гадзіны.

Лекаваньне працягвалася: 3 дозы па 6 чайных лыжак кожныя 20 хвілін. На наступны ранак хворага агледзелі. Ён спаў да 7:30 ранка (такі глыбокі сон быў першы раз за апошнія 20 год). На сьняданак ён з'еў 4 г/л мёду (перад ежай) кубак таматнага соку і кавалак мяса. І зноў 4 г/л мёду.

Калі сябар прынес яму бутэлечку гарэлкі, дык прапойца адставіў яе, сказаўшы, што больш не жадае піць. І сапраўды ёнбольш ніколі не піў.

Народная мэдэцына лічыць, што цяга да "моцных напояў" зьвязаныя зь недахопам у арганізьме *калія*. Мёд з'яўляецца добрай крыніцай калія, таму адварочвае ад сьпірытусу ды дапамагае цьверазець.

Пры выкарыстаньні дадзенай мэтоды лекаваньне неабходна трымацца некалькіх умоваў.

1)Трымацца ўсіх рэкамэндацыяў і не зьмяняць пазначаныя дозы мёда.

2)Дадзеную схэму трэба паўтараць штодзень да поўнага вылекаваньня.

усіх, хто выраашыць скарыстацца гэтым рэцэптам, просім распавесьці пра вынікі!



 **Адрас для допісаў:** 211030 г. Ворша вул. Астроўскага 39-31. E-mail: zbs@orsatbm.lingvo.vitebsk.by. 

Газэта "ЗАЛІК" выданьне Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў. Выдаецца на правох рукапісу ў беларускай мове. **Распаўсюджваецца бясплатна.**

Надрукавана на абсталяваньні й пры падтрымцы Віцебскага аддзяленьня Фонда імя Лева Сапегі: г. Віцебск, пр. Чарняхоўскага, 12-17.

Выдаецца пры падтрымцы USIS (праект ЦМІ "Контур" Віцебск). Набрана й сшыхтавана на абсталяваньні ЦПГІ "Крывіч" (Ворша).

Наклад 299 асобнікаў.

**Рэдакцыйная калегія:**
рэдактар, каніцэпцыя выданьня _ *Ільля Заранок,*
шыхтар _ *Дзяніс Жораў,*
ідэя макету _ *Аленка Б. & Міхалка,*
ідэя назвы _ *Нэт.*
выдаецца зь лістапада 1999 г.